# Кім я стану?

Часта можна пачуць, што гэта не так і важна, якую прафесію выберуць хлопец альбо дзяўчына. Бо, маўляў, самае важнае, якімі яны будуць людзьмі – добрымі альбо не. Можна з гэтым згадзіцца, вядома, бо здараецца ў жыцці так: прафесар раптам акажацца нягоднікам, а слесар, дворнік ці прыбіральшчыца — годнымі самых высокіх узнагародаў ад Бога і людзей. Але... Вось думаю, калі чалавек вымушаны гадамі рабіць штосьці яму зусім не мілае, як жа цяжка яму быць добрым, спагадлівым да іншых! Хіба не? Калі мы раптам захварэем, то да якога доктара нам лягчэй пайсці: да таго, хто любіць сваю працу ці да таго, які яе ненавідзіць і з пачатку змены толькі й чакае, калі яна закончыцца?

Вельмі гэта важна — любіць сваю працу. Тады ты сам будзеш імкнуцца рабіць яе як найлепш, а не проста, як мая бабуля казала: «З плеч ды ў печ». Абы скінуць з сябе, абы дзень той адбыць, сцерці яго на муку. Во, зноў бабуля прыгадалася, бо гэта яна пра дні, што пераціраюцца на муку, любіла гаварыць. Можа, таму яна мне сёння прыгадваецца, што бабуля мая вельмі любіла сваю працу. Яна працавала звычайнай рабочай у батанічным садзе. Але як яна працавала! Яна (ці паверыце?) размаўляла з кветкамі ды дрэвамі, кустамі. Магла гадзінамі распавядаць нам, малым, пра норавы раслінаў, пра тое, як яны... здольныя крыўдзіцца на тых, хто іх не любіць. Не, я вельмі хачу любіць сваю справу гэтак жа, як любіла яе мая бабуля! А вы, сябры?

Святы Томас Мор маліўся такімі словамі:

*Дазволь нам, Пане, не толькі горача маліцца.*
*Дазволь нам таксама ахвярна працаваць.*

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

# Адкрый мае вушы

Святы Францішак быў у ранняй маладосці рыцарам. Ён прыгожа спяваў, весела бавіў свой вольны час, быў адважны і смелы. Здавалася б, што яшчэ трэба маладому чалавеку? Жыві ды радуйся. Але аднойчы ён пачуў Божы голас: «Адбудуй Мой касцёл». Хлопец пачуў гэты голас і, што надзвычай важна, паслухаўся яго. Ён атрымаў заданне і прыклаў усе свае намаганні, здольнасці, шмат працы дзеля таго, каб выканаць гэтае важнае заданне.

Яго многія не разумелі, нават самыя блізкія людзі палічылі яго вар'ятам. Але хлопец не пажадаў адступіцца. Ён прыклаў столькі сілаў, каб выканаць Божае даручэнне!

І выканаў яго. Таму святы Францішак даў для ўсіх нас прыклад таго, наколькі сур'ёзна трэба ставіцца да Божага загаду. Сваім жыццём ён паказаў, што ў чалавека няма важнейшай справы за тую, якую даручае яму Бог.

Вельмі гэта важна – умець слухаць Божы голас у сваім сэрцы. Не заглушаць яго гучнымі рытмамі жыцця, бо як, напрыклад, ты яго пачуеш, калі тваe вушы ўвесь час будуць закрытыя слухаўкамі з гучнай музыкай? Альбо калі ўвесь свой вольны час сядзіш перад тэлевізарам? Тады ёсць небяспека проста не пачуць той голас, а калі нават і пачуе часам чалавек, то не зверне належнай увагі, бо зноў жа – гучныя рытмы, шум-гам...

Дык не заглушайма Божага голасу, а настроім наш слых на Яго! І не забывайма прасіць:

*Пане Божа! Будзь ласкавы*
*адкрыць мае вушы і сэрца*
*на Тваe словы*
*асабліва тады, калі Ты*
*прамаўляеш да мяне.*

*А. Барткевіч*

*«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 3 (57)/2012 г.*
*Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ, 220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.*
*Рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,*
*мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.*
***Адрас для лістоў:** а/с 101, 220002 г. Мінск-2;* **e-mail:** *media@catholic.by*
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 4 000 экз. Заказ № 8191.
Падпісана да друку 16.10.2012 г. Надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня»
ЛП 02330/0494165 ад 03.04.2009 г., вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4. 210015, г. Віцебск.

# УСЁ РОБЯЦЬ РАЗАМ

## «Інтэрв’ю» са святымі Космам і Дам’янам



**Яська:** *Дарагія Косма і Дам’ян! Напачатку ў мяне да вас абодвух такое пытанне: чаму вы ўзгадваецеся ў каталіцкім календары ў адзін дзень – 26 верасня?*

**Косма:** Няхай Дам’ян адкажа!

**Дам’ян:** А чаму не ты? Ты гэта зробіш лепш.

**Косма:** Выдумляеш. Ты заўсёды прыгожа гаварыў, а не я.

**Дам’ян:** Прыдумаў! Я ўвогуле больш люблю працаваць, а не гаварыць.

**Косма:** А я? Я ж таксама люблю больш працаваць, тым больш, што мы з табой заўсёды разам працавалі.

**Яська:** *Не разумею, прызнацца, чаго вы спрачаецеся.*



**Косма і Дам’ян** *(разам)*: Бо мы – блізняты. Мы ўсё любім рабіць разам!

**Яська:** *Вось цяпер разумею. Але чым вы займаліся, калі жылі на зямлі?*

**Косма і Дам’ян** *(разам)*: Мы – лекары.

**Яська:** *Ах вось яно што! Мала таго, што вы блізняты, дык вы яшчэ і адну прафесію на дваіх маеце! І шмат людзей вы вылечылі?*

**Косма:** Лячылі ўсіх, як умелі. Але ў Дам’яна гэта атрымлівалася лепш.

**Дам’ян:** Прыдумаў. Я заўсёды

захапляўся, як ты спрытна й лёгка робіш аперацыі.

**Косма:** Ну, Дам'ян, мы ж іх разам рабілі...

**Яська:** *А складана гэта — апераваць? Я, здаецца, нізавошта не змог бы — баюся крыві.*

**Косма і Дам'ян** *(разам)*: А калі трэба чалавека ратаваць?!

**Яська:** *Ну-у-у, вядома... І шмат вы выратавалі людзей?*

**Косма:** Хваліцца хрысціянам зусім не выпадае.

**Дам'ян:** Сапраўды. Ды і падумай сам, Яська: хіба магчыма было не дапамагаць людзям, калі з імі здарылася бяда?

**Косма:** Мы найбольш імкнуліся дапамагаць бедным, лячылі іх, вядома, бясплатна.

**Яська:** *А якая аперацыя запамяталася вам найбольш?*

**Косма і Дам'ян** *(разам)*: Як беламу чалавеку прышылі чорную нагу.

**Яська:** *Што?!Як гэта разумець?*

**Косма:** Цяпер, у вашым XXI стагоддзі, гэта называецца трансплантацыяй, калі хвораму прыжыўляецца нейкі орган. Ну а мы ў нашым III стагоддзі таксама шмат чаго ўмелі.

**Дам'ян:** Нашаму беласкураму хвораму мы аднойчы былі вымушаныя ампутаваць нагу, а калі ў той жа дзень загінуў чарнаскуры маўр, мы і прышылі ягоную нагу нашаму хвораму.

**Косма** *(смяецца)*: Ды ён не пакрыўдзіўся, бо хоць і чорная, а ўсё ж нага ёсць! Тым мы і праславіліся, і праславілі нашу радзіму Сірыю.

**Яська:** *Косма і Дам'ян, я прашу вашай малітвы за сучасную Сірыю — столькі там крыві цяпер ліецца! Маліцеся, калі ласка, у небе за яе!*

**Косма:** Молімся. Толькі трэба, каб і самі людзі неяк апамяталіся...

**Дам'ян:** Праўда, у наш час там таксама шмат крыві пралівалася. Вось і мы ў сірыйскім горадзе Кіра-се склалі свае галовы ў часы цэзара Дыяклецыяна, які люта ненавідзеў хрысціянаў.

**Яська:** *Вы за веру былі замучаныя?*

**Косма:** Нас прымушалі адрачыся ад Хрыста.

**Дам'ян** *(смяецца):* А мы не пажадалі. Вось і давялося пацярпець, а потым і галовы скласці.

**Яська:** *Мая цёця працуе хірургам. Дык яна часта моліцца праз вашае заступніцтва. Ведаю, што ўсе лекары лічаць вас сваімі апекунамі, а таксама і цяжка хворыя людзі, напрыклад, тыя, што хварэюць на рак. Так што клопату ў вас нямала.*

**Косма і Дам'ян** *(разам):* А мы не наракаем, бо любім дапамагаць людзям. Звяртайцеся! А яшчэ лепш — не хварэйце!

*Гутарыў Яська Запытальнік.*

Ян Твардоўскі

# ПАКЛІКАННЕ

Аднойчы на ўроку па рэлігіі я запытаў у дзяцей:

— Хто з вас хоча быць святаром?

Ніхто не падняў рукі.

Адзін хлопец хацеў быць мараком, бо марак не баіцца буры, апранаецца прыгожа, у сіняе і блакітнае адзенне, мае доўгія, шырокія штаны і вялізны каўнер. Калі дзьме моцны вецер, то каўнер той узнімаецца і закрывае вушы ад ветру.

Яшчэ адзін хлопец хацеў быць лётчыкам. Лётчык лётае нават над птушкамі, бачыць зверху рудую карову, нібы божую кароўку на зямлі, на ім вялікі скафандр, а на вушах слухаўкі. Ён у небе чуе тое, што яму гавораць на зямлі.

Адна дзяўчынка хацела быць каралеваю, бо каралева мае мужа караля і можа яму часам штосьці падказваць. Яна купаецца ў дарагіх парфумах, мае столькі пярсцёнкаў, колькі валасоў на галаве. Яна прыбіраецца штодня ў новыя прыгожыя строі і заўсёды так, нібы ідзе да шлюбу.

Адзін з хлопцаў хацеў стаць прафесарам, бо прафесар усё ведае. Ён пазнае птушак па іх спевах; ведае, адкуль і куды ідзе муравей — з муравейніку альбо вяртаецца ў яго;






ведае, што маладыя ласосі плывуць уніз па цячэнні наперад хвастамі; ведае таксама, што гук фартэпіяна аціхае інакш, чым гук скрыпкі.

А яшчэ адна дзяўчынка хацела быць варажбіткаю, бо варажбітка мае чорнага ката і саву, а калі глядзіць у шкляны шарык — ведае, калі будзе кантрольная работа ў школе.

Ніхто не хацеў быць святаром.

Але ж святар таксама апранаецца інакш за іншых. Не так, як марак, але і не так, як іншыя людзі. Глядзіць у часе казанняў з амбоны, як лётчык з вышыні, а часам кажа паціху на вуха табе, нібы варажбітка: «Калі будзеш нядобры да мамы, то потым будзеш плакаць, калі яе ў цябе не стане».

Чаму ніхто не захацеў быць святаром?

Марак, лётчык, кароль... Яны лічаць сябе найважнейшымі, а святар кажа, што найважнейшым ёсць Бог, якога ніхто не бачыць.

Хлопцу з чацвёртага альбо пятага класа гэта можа і зацяжка зразумець, але калі ён падрасце, можа надумаецца...



# ШЧЫРАЯ РАЗМОВА



## Хочацца гуляць

Дарагі Маленькі рыцар Беззаганнай! Пішу табе ліст, каб расказаць, як сумна мне бывае і трохі зайздросна, бо ў той час, калі мае равеснікі гуляюць у футбол, сядзяць перад камп'ютарам ці проста гойсаюць у двары, мне часта даводзіцца гуляць са сваёй малодшай сястрой. У мяне яшчэ ёсць сярэдні брат, але паколькі ён меншы за мяне, то мама радзей прымушае яго быць з Кацяй. А мне так хочацца таксама гуляць з сябрамі, а не тузацца з Кацькай ды слухаць яе румзанне! Ведаю, ты адкажаш, што я нядобры, не люблю сваёй сястры... Я яе люблю, але ж і гуляць хочацца...

*Цімафей, 10 гадоў.*

## Кавалачак сэрца

Не збіраюся я казаць табе, Цімафей, што ты не любіш сваёй сястры. Мне, ведаеш, таксама часта даводзіцца рабіць не толькі тое, што я люблю, але і тое, што трэба іншым. Лепш раскажу, як гэтым летам мы разам з нашымі старэйшымі парафіянамі хадзілі ў дзіцячы дом. Дзеці вельмі радаваліся нашаму невялічкаму канцэрту, які мы ім паказалі. А потым мы разам пілі гарбату. Адзін хлопчык раптам расплакаўся і сказаў, што ён зайздросціць тым дзецям, у якіх ёсць браты і сёстры. У яго, аказваецца, няма нікога — ні бацькоў, ні брата, ні сястры. Сумна гэта. Вельмі сумна. Заўтра мы з сястрой збіраемся наведаць таго хлопчыка. Гэта так цудоўна, калі ты некаму можаш аддаць свой час і кавалачак сэрца! А яшчэ я ўпэўнены, што калі твая сястра Каця вырасце, то абавязкова аддзячыць табе за ўсё дабро!

*Маленькі рыцар Беззаганнай*





# АСВЯЦІ НАС, ПАНЕ!

Школьныя прылады. Іх шмат у нас: кнігі і сшыткі, ручкі і алоўкі, ды яшчэ і калькулятары носім з сабой у партфелях, а дома часта яшчэ і камп’ютар нас чакае. Усё гэта дапамагае сучаснаму школьніку авалодваць ведамі. Дзеля таго, вядома, каб добра вучыцца, а потым добра працаваць, грошы зарабляць — словам, добра жыць. Кожны хрысціянін ведае, што асвечаныя ў святыні прылады дапамагаюць нам ва ўсім гэтым. Таму і нясем мы на пачатку новага навучальнага года ў касцёл свае напакаваныя ўсім гэтым дабром партфелі. Святар асвячае іх, і мы радасныя вяртаемся дахаты: вось цяпер ужо нам не страшныя ніякія двойкі!

У парафіі святога Антонія ў Віцебску напярэдадні навучальнага года пробашч Алег Буткевіч таксама асвяціў школьныя прылады сваіх юных парафіянаў. А яшчэ пажадаў ім добра вучыцца, не ленавацца, берагчы ад бруду не толькі рукі ды цела, але і свае сэрцы. Усё дзеля таго, каб некалі потым проста быць добрымі людзьмі.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*










# Калі вырасцем...

Мабыць, мала хто сёння з нашых чытачоў не задумваецца пра тое, кім ён будзе тады, калі вырасце. І гэта правільна, бо чалавек часта і не заўважыць, як прамінуць школьныя гады і празвініць для яго апошні званок… А потым? Што будзе з намі потым? Куды мы пойдзем вучыцца альбо працаваць? Кім мы будзем у нашым дарослым жыцці?

Ужо сёння думаюць пра гэта і дзяўчаты з Полацка, якія сёлета ішлі пілігрымамі разам з іншымі парафіянамі ў Росіцу. Ішлі, шмат маліліся, спявалі. А на адным прывале і адказалі нашаму карэспандэнту на пытанне пра тое, кім яны мараць быць тады, калі вырастуць.



Я вучуся ў гімназіі з паглыбленым вывучэннем іншаземных моваў — вучу ангельскую і нямецкую мовы. Яны мне падабаюцца. Затое фізіка і матэматыка мне даюцца значна цяжэй. Дык хіба я змагла б быць добрым спецыялістам у дакладных навуках? Вядома, не. Таму я і хачу вучыцца пасля школы на перакладчыцу. Трэба рабіць у жыцці тое, што ў цябе добра атрымліваецца.

*Вікторыя Шпак, 14 гадоў.*



Ужо два гады я займаюся ў мастацкай школе і мне вельмі падабаецца маляваць. Кажуць, у мяне гэта няблага атрымліваецца. Я мару стаць архітэктарам-дызайнерам, бо вельмі люблю, калі ў нашым горадзе з'яўляюцца прыгожыя, непадоб-

ныя да іншых будынкі. Хачу, каб нашае жыццё рабілася прыгажэйшым і цікавейшым.

*Арлета Гаравец, 15 гадоў.*



Мне падабаюцца дзве прафесіі: маляра і візажыста. Абедзве дапамагаюць упрыгожваць штодзённыя будні людзей, і гэта класна. Пакуль што я яшчэ цвёрда не вырашыла, кім буду, калі стану дарослай, але ведаю дакладна, што прагну быць добрым чалавекам і хрысціянінам. Усё, што мяне сустрэне ў жыцці, я даверу Пану Богу.

*Ганна Быхавец, 11 гадоў.*

Паважаю людзей, якія ведаюць шмат моваў. Апроч рускай і беларускай я яшчэ добра ведаю ангельскую і хачу паглыбляць свае веды, бо мару стаць перакладчыцай з гэтай прыгожай мовы. Тады я буду дапамагаць тым людзям, якія яе не ведаюць. Гэта так цудоўна — дапамагаць людзям!



*Яна Гайлеш,*
*14 гадоў.*



Мне падабаюцца тыя прафесіі, якія дапамагаюць людзям бачыць прыгажосць вакол іх і ў свеце мастацтва. Я сама люблю маляваць і люблю наведваць карцінную галерэю, у якой часта адбываюцца выставы сучасных мастакоў. Ці стану я мастаком, пакажа час, але вельмі хацелася б... А таксама мне падабаецца прафесія дызайнера.

*Яніна Мацкевіч, 11 гадоў.*



А ў мяне пакуль што шмат мараў. Я хацела б быць настаўніцай спеваў і музыкі. Я сама люблю ігру на фартэпіяна і таму хочацца вучыць гэтаму іншых. Увогуле я вельмі люблю іграць, спяваць, сачыняць музыку. Мне падабаецца ўсё, што прыносіць людзям радасць. Вось я і ў пілігрымцы ўжо ахрыпла, бо шмат спяваю.

А яшчэ мне б хацелася быць законнай сястрой, такой, як наша сястра Святлана. Яна таксама шмат спявае, вучыць іншых, шмат дапамагае людзям. Гэта ж так добра, праўда?

*Сафія Брандыкова,*
*10 гадоў.*

*Фота Анастасіі Вартаньян.*

# Люблю сваё адзенне

*Госць часопіса – сястра эўхарыстка Святлана Грэйць*



*– Сястра Святлана, я ведаю, што Вы – даўні чытач нашага часопіса. Ад якога часу?*

– З «Маленькім рыцарам Беззаганнай» я пазнаёмілася яшчэ ў дзяцінстве. Тады было мне каля 12 гадоў. Гэта быў, напэўна, адзіны рэлігійны часопіс у Беларусі для дзяцей, і я яго палюбіла.

*– А яшчэ я ведаю, што Вы – пілігрым, бо аднойчы нам разам нават давялося ісці ў Будслаў. Праўда, гэта было даўнавата. Вы цяпер таксама пілігрымуеце?*

– Сапраўды, гэта было даўно. Пасля тае пілігрымкі мінула ўжо 13 гадоў. Гэта была мая першая пілігрымка, мы ішлі з Друі ў Будслаў. Памятаю, было столькі ўражанняў! А дзіцячыя ўражанні застаюцца, напэўна, да канца жыцця. Цяпер я таксама ўдзельнічаю ў пілігрымках — у Будслаў, Росіцу. Зразумела, што цяпер пілігрымка перажываецца зусім інакш, ужо па-даросламу. Цяпер я назвала б пілігрымку «маленькі жыццём са сваімі радасцямі і цяжкасцямі».



*– Скажыце, калі ласка, кім Вы марылі стаць у дзяцінстве?*

– Я марыла стаць настаўніцай. Памятаю, як мы з сябрамі гулялі «ў школу», любілі выклікаць адзін аднаго да дошкі, правяраць хатнія заданні і ставіць адзнакі.

*– А як да Вас прыйшло пакліканне? І, калі не сакрэт, як гэта адбылося?*

– Пакліканне — гэта таямніца, таму цяжка апісаць яго словамі. Але, як сёння, памятаю гэты дзень. Калі ў 1996 годзе на Імшы наш ксёндз пробашч абвясціў, што ў нашую парафію (г. Астравец Гродзенскай вобласці) прыехалі працаваць законныя сёстры і яны будуць рыхтаваць дзяцей да сакрамэнтаў, то ў той самы дзень мама павяла мяне да сясцёр, каб запісаць на заняткі.



Менавіта тады я ўпершыню ўбачыла сястру эўхарыстку Валянціну Арсобу. І, памятаю, у сэрцы ўзнікла дзіўнае жаданне: «Я хачу быць гэткай жа, як яна». Я не ведала тады дакладна, што гэтыя маладыя дзяўчаты ў чорных сукенках робяць, як яны жывуць, але пасля першай сустрэчы засталося жаданне — быць, як яны. З таго дня я не пакідала Касцёл. Калі падрасла, у нашай парафіі сфармавалася цудоўная група моладзі, якая прагнула жыць з Хрыстом. Сёння мы жывем у розных гарадах, але зерне веры, якое мы атрымалі праз выхаванне ў сваіх сем'ях і Касцёле, засталося ў сэрцы кожнага з нас.

– *Дзяўчаты звычайна вельмі любяць мяняць сукенкі. У мяне была знаёмая, якая пераапраналася часам некалькі разоў на дзень. А Вам не сумна заўсёды хадзіць у адным і тым жа адзенні?*

– Не! Як ні дзіўна, хабіт і вэлюм, якія носяць сёстры, не выклікаюць у мяне суму. Яшчэ калі я вучылася ў школе, мне падабалася насіць доўгія спадніцы, таму ў свой час нават не магла дачакацца, калі буду насіць доўгі хабіт.

– *Чым Вы найбольш любіце займацца?*

– Вельмі люблю граць на гітары і спяваць, асабліва з моладдзю і дзецьмі, таксама люблю складаць кампазіцыі з кветак, час ад часу напісаць артыкул пра якую-небудзь падзею, што адбылася ў нашай парафіі.

– *У сясцёр законніц бывае вольны час? І як Вы яго праводзіце?*

– У свой вольны час я найчасцей чытаю, граю на гітары, люблю таксама пабыць на прыродзе, паглядзець добры фільм.



– *Лета скончылася, і якім бы класным яно ні было, за ім заўсёды надыходзіць восень, а разам з ёй і новы навучальны год. Падкажыце, калі ласка, нашым чытачам, як не вельмі бедаваць і нудзіцца з гэтае прычыны.*

– Шаноўныя чытачы! Думаю, што не трэба сумаваць на ўроках, таму што час бяжыць вельмі хутка, і трэба пастарацца паспець пазнаць шмат новага, шмат чаму навучыцца. Усё гэта спатрэбіцца ў жыцці. Жадаю вам з Божай дапамогай за гэты год стаць мудрэйшымі, мацнейшымі, каб маглі дзяліцца сваімі талентамі з іншымі і славіць імя Пана Бога. Поспехаў вам!

*Гутарыла І. Студзеньская*



# Хто ўзыйдзе на гару...




Ці ёсць у Беларусі горы? На гэта пытанне дакладна ведаюць адказ браты Мікалай і Аляксей Томкавічы з Вілейкі. Кожнае лета яны ўзнімаюцца на Навагрудскія горы. Уся зямля , як на далоні! Душу перапаўняе замілаванне створаным Богам светам.

А камяні старажытных муроў расказваюць цікавыя гісторыі.







*У восеньскую макрэчу ёсць што ўспомніць братам-блізнятам Яну і Кірылу Красновым ды іхняй сястрычцы Лізавеце з Мінска, бо іхняе лета ў Дамку-Церамку пад Лагойскам над рэчкаю Гайнай заўсёды такое сонечна-змястоўнае і напоўненае прыгодамі! І як жа цудоўна, што ў тыя шчаслівыя хвіліны ў мамы, таты, бабулі альбо дзядулі апынецца ў руках фотаапарат, які зафіксуе тыя хвіліны!*





# І ты ў гэтым свеце







# САМАЯ ВАЖНАЯ СУСТРЭЧА

## *Ты ўваходзіш у святыню*

**І ўзвядуць Мне святыню, і Я буду жыць паміж іх** (Кніга Зыходу 25, 8).

Мы любім Пана Бога,
і таму прыходзім у святыню
на сустрэчу з Ім. Мы шчыра
радуемся, калі разам з намі
ў святыню ідуць нашы сябры,
знаёмыя і незнаёмыя людзі.



Пры ўваходзе
ў святыню трэба
змачыць пальцы
ў свянцонай вадзе
і перажагнацца.

Знак крыжа нагадвае нам пра наш хрост:



*У імя Айца...*



*...і Сына...*



*...і Духа...*



*...Святога.*



*Амэн.*

У табэрнакулюме заўсёды знаходзіцца Найсвяцейшы Сакрамэнт, Цела Езуса Хрыста. У знак пашаны да Езуса мы кленчым і жагнаемся, і робім гэта не спяшаючыся.



# Працуй у вінаградніку

**Евангелле паводле святога Мацвея**
*Раздзел 21, вершы 28–31*

Езус сказаў: «**Як вам здаецца? У аднаго чалавека былі два сыны. Прыйшоўшы да першага, ён сказаў: «Сыне, ідзі і працуй сёння ў вінаградніку». Але той адказаў: «Не хачу». Аднак пасля, апамятаўшыся, пайшоў. Тады падышоў да другога і сказаў тое самае. Той жа сказаў у адказ: «Іду, гаспадару». І не пайшоў. Каторы з двух выканаў волю бацькі?**» Кажуць Яму: «Першы».





# Калі абяцаеш…

Многія з нас зусім не сквапныя на абяцанні. Просіць нас мама: «Пабудзь з брацікам». Згаджаемся адразу, а потым неўпрыкмет забываем... Запрашае сябар зайсці яго праведаць, бо ён захварэў. Як адмовіць? Абяцаем, што прыйдзем, а потым раптам некуды выветрыцца тое абяцанне... Папрасіў сусед выгуляць ягонага сабаку, бо яму нездаровіцца. Вядома! Тым больш, што сабака ў яго такі класны! А потым сустрэўся ў двары сябар са сваёй аўчаркай, загуляліся і забыліся... А то самі сабе абяцаем, што вось з гэтага панядзелка пачнем... Ды потым куды падзенецца тое абяцанне і наша памяць? І мы так нічога абяцанага ў чарговы раз не пачнем...

Першаму сыну з Евангелля таксама, відаць, не хацелася працаваць у той дзень у вінаградніку, і ён шчыра прызнаўся: «Не хачу». Але падумаў, што пакрыўдзіць ён тым самым бацьку, бо праз ягонае «не хачу» не будзе зроблена пільная праца. Перамог сын сваю неахвоту, перасіліў сябе — пайшоў.

Як жа важна нам вучыцца ў гэтага хлопца перамагаць саміх сябе! Як важна прыслухоўвацца не толькі да сваіх жаданняў, але і да патрэбаў іншых людзей. І калі навучымся гэтаму, тады Езус, магчыма, пра нас таксама скажа, што мы **выконваем волю Айца.**



# ЗАГАДКІ З ЕВАНГЕЛЛЯ

Сябры! Прапаную вам новую «порцыю» загадак. Я рады, што вы любіце іх і не лянуецеся адгадваць. Гэта сведчыць яшчэ і аб тым, што вы чытаеце Евангелле, што самае важнае ў нашым конкурсе!

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

- Чым займаліся апосталы Пётр, Ян і Мацвей да таго, як пайшлі за Езусам і сталі Яго вучнямі?
- Якую прафесію меў евангеліст Лука?
- Ці ўмела Маці Божая ткаць палатно і рабіць адзенне? Як вы даведаліся пра гэта?
- У які дзень мы святкуем народзіны Найсвяцейшай Панны Марыі?
- Назавіце імёны трох вядомых вам арханёлаў. Напішыце пра занятак кожнага з іх. Калі ёсць сярод вас мастакі, то чакаю малюнкаў пра гэтых герояў Бібліі.
- Калі б вы жылі ў часы Езуса Хрыста, якую прафесію выбралі б? Чаму?
- Назавіце імёны сямі мудрых, сумленных людзей, якія былі выбраныя з габрэяў для дапамогі апосталам (Дз 6, 1–7).
- «...чалавек апраўдваецца ...» Знайдзіце гэтыя словы і прадоўжыце іх (Як 2, 14–24). Як вы разумееце гэты выраз?

*Адказы на* **«Загадкі з Евангелля»**, *змешчаныя ў №2 за 2012 г.*

Марыя Магдалена, Марыя Якубава, Саламея; Марыя Магдалена; Ян, сын Завядзеяў; бо ён не паверыў ва ўваскрослага Езуса да таго, пакуль не ўбачыў Яго ранаў; у часе ламання хлеба; Папу Рымскага Бэнэдыкта XVI.

Узнагароды за правільныя і найбольш поўныя адказы атрымаюць: **Мікола Томкавіч** з Вілейкі, **Міша Галубіхін** з Чэрвеня, **Маргарыта Ясэпкіна** з Вілейкі, **Яніна Мацкевіч** з Полацка, **Оскар Усціновіч** са Свіры. Адну памылку зрабіла ў адказах **Ганна Быхавец** з в.Чарнешчына Полацкага раёна, яна таксама атрымае прыз часопіса.

Чакаем вашых адказаў на новыя загадкі. Нагадваем, што адказы можна таксама дасылаць і электроннай поштай на e-mail:media@catholic.by

*Рэдакцыя*

Адказ на «Вясновую крыжаванку»: *Дух Святы*



# Восеньская крыжаванка




Калі правільна адгадаеш прапанаваныя тут загадкі і ўпішаш адгадкі пад адпаведнымі нумарамі ў крыжаванку, то зможаш прачытаць назву малітвы, якая дапамагае нам разважаць над старонкамі Евангелля.

**1.** Чырвоны, ажно бурачковы,
пузаты альбо даўгаваты,
у баршчы заўсёдны госць
і ў халадніку таксама часта ёсць.

**2.** Хоць і тоўсты лежабок,
ды прыгожы, жоўты.
Каша – смаката з яго,
ды й на семкі шчодры.

**3.** Галава ўсяму, вядома, —
хлеб.
Ну а ён з чаго пячэцца,
з якое збажыны,
наш духмяны, аржаны?

**4.** Беларусы без яе ды й амерыканцы
пахуднелі б, памарнелі і...
што б тады ўсе елі,
калі б не было яе?

**5.** Ён такі цыбаты, гонкі,
гэтак любіць сонца,
што і сам неўпрыкмет
стаў да сонейка падобны.

**6.** Ёсць ён горкі, ёсць салодкі,
ёсць зялёны, жоўты і чырвоны.
Ён такі заўсёды смачны
..... наш балгарскі.

**7.** Хоць і плачам ад яе,
але церпім, спажываем,
бо карысці болей маем
мы ад гэтай рэпкі-плачкі.

# Прыгоды ксяндза Лявона

## Каго баяцца?

— Пробашч! Гэй! Ці дома?

Ксёндз Лявон зірнуў на крыкі ў вакно і ўбачыў на дарозе, пры веснічках, дзядзьку Ігната, які жыў на другім канцы вёскі. Дзядзька чамусьці абапіраўся на мыліцы, нібы той паранены герой з фронту. Ксёндз Лявон выбег да свайго парафіяніна:

— Што здарылася? Бяда якая напаткала?

— А каб на яе трасца! — гукнуў у адказ дзядзька Ігнат і спахапіўся, закрыў даланёй рот: — Прабач, ксёнжа, вучыш, каб не сварыўся я такімі словамі, а во зноў не вытрываў… — і тут жа апраўдаўся: — Дык жа, ксёнжа, не вытрываеш тут ніяк! Конь во на нагу ўзбіўся ды скалечыў, а на двары ж, ксёнжа, восень, пільніца. Рабі тут во з гэтай цацкай цяпер як хочаш!

— А ўсё таму, што ксяндза не слухаеш! — падала голас дзядзькава Ігнатава жонка Паўліна. Яна стаяла воддаль ды чамусьці не спяшалася набліжацца, быццам пабойвалася чаго. Дзядзька Ігнат крутнуўся на ейны голас, і тая ажно прысела за плот. Дзядзька ваяўніча махнуў на яе мыліцай:

— Балбочаш абы-што! Як гэта я не слухаю? Выдумала!

Цётка Паўліна выпрасталася і ўсё ж давяла сваё, хоць і каштавала гэта ёй чарговай порцыі ўпуду:

— А вот жа і не слухаешся! Колькі ксёндз казаў з амбоны, каб людзі не працавалі ў нядзелю? Не памятаеш? А ты і слухаеш нібыта, а сам спіш на тых казаннях, бо ўчора, у святую нядзельку, сабраўся бульбу капаць і мяне яшчэ ў грэх увёў. Вось табе конь…

Дзядзька Ігнат як мог крутнуўся на сваіх мыліцах, але што ж — не разгонішся на іх, дык і застаўся стаяць, як на прывязі ўсё адно, толькі буркнуў пад нос:

— Балбочаш абы-што.

Ксёндз Лявон засмяяўся:

— Дык вы ўсё ж учора пайшлі бульбу капаць пасля Імшы? У нядзелю? Ай-яй-яй!..

Дзядзька Ігнат апусціў галаву, хвіліну



разглядваў сваю забінтаваную нагу ды ўздыхнуў:

— Я вось пачынаю ўжо ксяндза баяцца, бо ўвесну насварыўся на мяне, калі я ў дровы ехаў 19 сакавіка, на ўрачыстасць святога Язэпа... Я тады сякерай і сакануў сабе па пальцы. За ўсё жыццё ніколі ні разу не параніўся, а тады — на табе! І ўчора во гэтаксама... Як бы ксёндз усё адно якую таямніцу ведаеш, — прымружыў дзядзька Ігнат вока.

— Дык а ці ж я хаваю гэтую таямніцу? — падзівіўся ксёндз Лявон. — Яна ж ў Святым Пісанні для нас запісана! І гучыць яна так: «Памятай дзень святы святкаваць». Першы раз хіба чуеце такую таямніцу? — Памаўчаў і скрушна дадаў: — Мабыць, ніколі не чулі, калі ўсё карціць парушыць запаведзь любым коштам. Вось Пан Бог і вучыць хоць бы і такім чынам. Цяжкая вучоба, але можа нарэшце дапаможа?

— А няхай бы ўжо дапамагло — хоць бы ў грэх і мяне не ўганяў бы, — з надзеяй уздыхнула цётка Паўліна. І развяла рукі на бакі: — Ксяндза ён, бачыш, ужо баіцца. А таго нібыта і не чуў, што не ксяндза, а Бога баяцца трэба, тады і рукі, і ногі цэлыя будуць.

Дзядзька Ігнат на гэты раз нязлосна, а хітравата буркнуў:

— Анягож. І язык твой доўгі, і спіна твая таксама тады будуць цэлыя.

***Прыгоду запісала І. Ж.***

# *Галерэйка*



*«Па слову Яго», Уладзік ЖУК, 8 гадоў, г. Браслаў.*



*«Анёле Божы, дружа мой...», Яніна МАЦКЕВІЧ, 11 гадоў, г. Полацк.*



*«Разам з вучнямі», Вікторыя МУМАШЭНКА, 11 гадоў, г. Браслаў.*

